# АНАҐРАФЫ ANAGRAPHS

No.1 NOVEMBER 1977


## БЕЛАРУСКІ ХАРЫТАТЫЎНА-АДУКАЦЫЙНЫ ФОНД

АНАҐРА́ФЫ маюць на мэце інфармаваць беларусаў дзеколечы яны жывуць, гэтак як і амэрыканскую супольнасьць, – што да ідэяў, мэтаў і сродкаў вышэйназванага фонду; падаваць да публічнага ведама тыя пераважна дакуманты, зьвязаныя з працамі падобных арганізацыяў, якія зьяўляюцца маладаступнымі ў васяродзьдзі беларускім.

Яна і Аліцыі Пятроўскіх Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд зьяўляецца фондам кажнага чалавека, які супрацуе зь Беларускім Фондам, і ў той ці іншай меры ў галіне духова-культурнай, як і эканамічнай спрычыняецца да актывізацыі гэтага фонду. З гэтае ўжо прычыны, як і з факту, што Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд зьяўляецца праўным целам, аб чым гавораць прадложаныя ўвазе беларускага чытача афіцыяльныя дакуманты на іншым месцы гэтае публікацыі, – Беларускі Фонд стаецца ўласнасьцю беларускае супольнасьці, расьцярушанае на розных кантынэнтах нашага ґлёбу, што́ можа вязацца з паняцьцем беларускага нацыянальнага фонду. Інакш кажучы, Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд зьяўляецца ўласнасьцю маею, тваею, паважаны Чытачу, як і кажнага амэрыканца, і асабліва амэрыканца беларускага паходжаньня.

У практыцы павінна гэта быць выражана, што сумы грошай – хай сабе будуць данацыі першапачаткавыя або сумы ў хворме данацыяў пазьнейшых, ці з адумысна ладжаных імпрэзаў – раз укладзеныя і пералітыя ў Беларускі Фонд, належаць да нікога болей як толькі і выключна да Беларускага Фонду. Сам Беларускі Фонд, паводля волі закладчыкаў яго і права, ёсьць <u>сталаю</u> арганізацыяю праўнаю, а мы, адміністратары Фонду, зьяўляемся чыньнікам <u>пераходным</u>. Кажны чалавек, які адказвае вымаганьням, прадбачаным Артыкуламі Інкорпарацыі і Статуту Беларускага Фонду, можа стацца

---

АНАҐРА́ФЫ – запісы – беларускае слова грэцкага паходжаньня: ἀνᾶ – сярод іншага, значыць <u>за</u>; γράφω – пішу, згэтуль: ἀναγράφω – запісваю, упісваю, апісваю; ἀναγραφή – запіс, упіс..., бел. мн. л., анаґра́фы.

**ANAGRAPHS** — Official Publication of John and Alice Piotrowski
**Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.**

*Non-Profit, Tax Exempt Organization*
*Editor:* Dr. George Piotrowski
*Mailing Address:* 1716 N.E. 7th Terrace, Gainesville, Fla. 32601, U.S.A.

супрацоўнікам адміністрацыйнага апарату, які адказвае за спраўнае і этычнае дзеяньне Фонду.

Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд мае на ўвазе дзьве аснаўныя мэты, зьвязаныя з эканамічнаю стараною працы:

I. Публікацыя паважных і вартасных працаў з галіны свабоднае адукацыі;

2. Акумуляцыя рэсурсаў эканамічных, маючых на мэце палепшаньне зьместу як і тэхнічнае стараны выданьняў; успамажэньне, у выпадках неабходных тых, хто хацеў-бы справе пісаньня аддаць болей часу.

Адміністрацыя Фонду - гэта прывілегія і адказнасьць. Кажная данацыя ці іншы ўклад - будзе гэта адзін цэнт ці тысячы даляраў - ня могуць быць прынятыя скарбнікам фонду бяз выданьня ахвярадаўцы на паперы адпаведнага сьцьверджаньня акту прыняцьця. Гэтаксама без адпаведнага дакуманту ніякі выдатак Фонду ня можа мець месца. На пачатку кажнага году, за мінулы год, адміністрацыя грошай мае быць афіцыяльна пацьверджаная адпаведным, і прадбачаным правам, сэртыфікатам, - і ўсё разам пераказана адпаведным урадавым чыньнікам. Гэтак дагледжаны працэс кантролі фінансавае стараны Фонду, плюс этыка, зь якою ўсе працуючыя ў фондзе падходзяць да справы, гарантуе павагу, спраўнасьць, нашую здольнасьць і беларускі прэсьціж на шляху да вызначаных мэтаў.

Гаворачы пра грошы, мы ніколі не павінны забываць, што самыя грошы не зьяўляюцца мэтаю Фонду, але яны, аднак, у нашым сучасным сьвеце, зьяўляюцца добрым сродкам для рэалізацыі пастаўленых мэтаў.

Маючы на ўвазе вышэй сказанае, мы зьвяртаемся да ўсіх людзей добрае волі, падтрымаць важны пачын зразуменьнем як і фінансава, бо ўспамагаючы данацыямі Беларускі Фонд, вы гэтым самым, успамагаеце вас самых, нашую агульную справу, беларускую справу.

Рада Дырэктараў

## BOARD OF DIRECTORS



Dr. John Piotrowski
*President*



Dr. Michael Jacewicz
*Vice-President*



Dr. George Piotrowski
*Secretary*



Mrs. Alice Piotrowski
*Treasurer*

## AN INTRODUCTION TO THE BYELORUSSIAN FUND

*Anagraphs* are intended to inform Byelorussians, wherever they may reside, as well as the American population about the purposes, ideas, activities, and plans of the John and Alice Piotrowski Byelorussian Charitable Educational Fund, and to disseminate those documents, related to the work of similar institutions, which are not readily accessible to the Byelorussian community.

The John and Alice Piotrowski Byelorussian Charitable Educational Fund is the Fund of every individual who cooperates with the Byelorussian Fund and in some fashion, in spirit as in finance, assists in the actualization of this Fund. For this reason, and for the fact that the Byelorussian Charitable Educational Fund exists as a legal entity (the relevant legal documents and their Byelorussian translations appear elsewhere in this issue) the Byelorussian Fund is the property of the Byelorussian Community and can therefore be interpreted as a Byelorussian National Fund. In other words--the Byelorussian Charitable Educational Fund belongs to me, to you, to us, and to every American, and especially to every Byelorussian-American.

Practically speaking, this means that sums of money--whether the initial contributions or sums in the form of subsequent donations or any other source of income--transferred into the Byelorussian Fund belong to no one else but only and exclusively to the Byelorussian Fund. The Byelorussian Fund, according to the wishes of its founders and the law is a *permanent* chartered organization, but we, the administrators of the Fund, are *temporary* entities. Every individual that meets the requirements of the Articles of Incorporation and the By-laws of the Byelorussian Fund may become a participant in the administrative structure, which is responsible for the proper and ethical functioning of the Fund.

The resources acquired by the Fund are used to support the two basic means of implementing the Fund's goals:

1. Publication of important and valuable works in the realm of liberal education.

2. Accumulation of economic resources for the purpose of improving content as well as technique of presentation of such works, and to assist those who need support to devote more time to writing.

Administration of the Fund is both a privilege and a responsibility. Every donation or other input--be it one penny or a thousand dollars--cannot be accepted by the Fund's treasurer without the issuance of a receipt, formalizing the acceptance of the donation. Similarly, no expenditures can take place without proper authorization and documentation. At the beginning of each calendar year, the administration of money in the previous year must be reported and officially documented. Thus this process of control of the Fund's financial matters, together with the ethical principles guide the actions of everyone associated with the Fund, guarantees seriousness, efficiency, capability, and the Byelorussian prestige in the process of carrying out the Fund's purposes.

Talking about money, we should not forget that money itself is not the purpose of the Fund, but it represents a means for the realizing of the purposes of the Fund, as delineated above.

In the light of the above, we turn to all people of good will to support us with understanding and money. With your donations to our Byelorussian Fund you simultaneously also help yourself and our common cause, the Byelorussian Cause.

The Board of Directors

# ЛЕПШЫЯ ДУМКІ ЧАЛАВЕКА

Накладам Беларускага Харытатыўна-Адукацыйнага Фонду выйшла з друку ў беларускай мове чарговая публікацыя п.т. "Лепшыя Думкі Чалавека", аўтарам якое зьяўляецца Ян Пятроўскі. Гэта свайго роду папулярны зборнік лепшых думак чалавека, пачынаючы з найболей раньняе пары гісторыі чалавека аж да сягоньняшняга дня; тут прамаўляюць да нас тыя, што адыйшлі ў вечнасьць як і тыя, што жывуць сягоньня. Гэта ня будзе кніга, якая, пасьля прачытаньня, адкладваецца набок. Яна заўсёды астанецца актуальнаю, і будзе зьвяртаць на сябе ўвагу ўсіх прысутных дома. Яна поўная зьместу, які агортвае жыцьцё чалавека ў кажным ягоным палажэньні; зьмест некаторых яе выра-




жэньняў можа і павінен стацца аб'ектам дыскусыяў на сяброўскіх сходках тых, што любяць узьняць думку ўва ўсей яе глыбіні і красе; людзі пяра могуць выкарыстоўваць яе зьмест для сваіх публікацыяў, каб засьведчыць перад сьветам нашую паралельнасьць у васяродзьдзі іншамоўных. Гэтак, як у фізычных практыкаваньнях мы разьвіваем нашыя мускулы і нашае цела, падобна дзеецца з нашым працэсам думаньня, калі мы чытаем выказваньні, якія, як рэґула, людзкасьцю прызнанымі за найлепшыя. Для прыкладу, Ґётэ, - адзін з найлепшых нямецкіх паэтаў, кажа, што чалавеку

"Трэба кажны дзень... прачытаць хоць адно якое-небудзь мудрае выказваньне".

Новавыдадзеная кніга – гэта крыніца інсьпірацыі для штодзеннага жыцьця і духовага росту; яна вядзе ў васяродзьдзе добрых і мудрых людзей; і мы самыя зьяўляемся часткаю тых, каторыя жылі перад намі як і тых, што надыйдуць пасьля нас. Усе мы – адна суцэльнасьць. Нехта з думаючых людзей сказаў, што "сьмешна і недарэчна ўважаць, што ты здольным зьяўляешся ўсё вынайсьці сам". І думку гэтую працягвае Анатоль Франс – чалавек навукі і найбольшы францускі пісьменьнік свайго часу, калі ён кажа: "Чалавек, нават, калі гэта вялікі чалавек, ня гэтак ужо шмат значыць, калі ён адзін. Мы недастаткова зьвяртаем увагу на тое, што вялікі пісьменьнік, хоць-бы і вельмі самастойны, запазычае болей, чымся сам творыць: мова, на якой ён піша – не ягоны вынахад; хворма, у якой ён выражае сваю думку – будзе гэта ода, камэдыя ці повесьць- ня ім створаны; ані сынтаксыз, ані просодыя не належаць да яго асабіста. Нават самая ягоная думка, і тая падшэпнутая яму з усіх старон... Станьмася разумнымі і згадземся,што нашыя творы суцэльна не належаць да нас. Праўда, яны дасьпяваюць у нас, але карэньні іхныя ў жывячай нас глебе". Глеба? – Гэта Атэны, гэта Рым.

Іншы францускі пісьменьнік, пайменна, Ромэн Рольлянд, вось што пісаў: "Што мне да гэтых грэкаў і рымлянаў? Яны памерлі і памершымі астаюцца, а мы жывем! Што яны могуць мне расказаць, чаго-б я ня ведаў ня горай ад іх?... Пасьля гэткага разважаньня, я з ласкі для іх пачаў перагортваць кнігу, няўважна закідваючы ў яе свой нудны позірк, быццам тую вудачку ў раку. І так і застыў, дружа мой... А браткі-ж вы мае, ну і ўлоў!... Я выцягваў гэтакіх карпаў, гэтакіх шчупакоў! Гэтакія рыбы, якіх я ніколі ня бачыў, залатыя, сярэбраныя, вясёлкавыя, што пераліваліся рознымі зіхаценьнямі... яны жылі, трапяталіся... Бачыце, а я ўважаў іх памершымі!"

Калі надыходзіць у хату новая беларуская кніга – гэта радасная госьця! Цанеце яе. Калі вы будзеце цаніць яе – яна ўчыніць бясцэннымі вас і вашых нашчадкаў. З другое стараны, цэнячы кнігу, гэтым вы выканаеце свой грамадзкі абавязак: папершае, вы аддасьце належную пашану тым, каторыя не ашчаджвалі свае энэргіі і здароўя, часу і грошай; падругое,вы выканаеце ваш абавязак і тым, што вы наагул падтрымаеце фінансава гэтую кнігу як і кнігу кажную іншую беларускую.

Вы яшчэ і тым пашырыце друкаванае беларускае слова, калі вы пры розных нагодах, як Каляды, Вялікдзень, Дзень 25 Сакавіка, дзень нарадзінаў вашых блізкіх і знаёмых, вышлеце ім, як гасьцінец, добрую кнігу. Калі ласка, зрабеце гэта, і зрабеце гэта яшчэ сягоньня.

# А С Ь В Е Д Ч А Н Ь Н Е

Кажная дзейнасьць, якая вяжацца з паняцьцем адміністрацыі грошай, вымагае ад адміністратараў пэўнага слова выясьненьня для супольнасьці, у васяродзьдзі якое праца мае разгарнуцца.

Пару гадоў таму нехта з нашых праўдзівых прыяцеляў, калі гутарка зайшла пра Беларускі Фонд, паставіў проста ніжэй падпісанаму поў жартам прыблізна гэтакае пытаньне: Што гэта, спадар Пятроўскі, хочаце вы сваім фондам праслаўляць самых сябе!?

Мушу прызнацца, што, пачуўшы гэткае пытаньне, якое ніколі мне самому ня прыходзіла на думку, я чуўся зьбянтэжаным.

У 1973 годзе, калі выдавалася першы раз нашым фондам трэйцяя з чаргі кніга Плятонавых дыялёгаў, тады было сказана ў ангельскай мове, што кніга выдаецца Яна і Аліцыі Пятроўскіх Беларускім Харытатыўна-Адукацыйным Фондам. Зборны прыметнік у назове выдаўніцтва "Яна і Аліцыі Пятроўскіх" ня быў уведзеным прыпадкова або з мэтаю ґлёрыфікацыі каго-небудзь. Прыметнік гэты быў уведзены з суворым падыходам і прадуманаю загадзя мэтаю. Мы хацелі гэтым сказаць і падчыркнуць, што першапачатквая сума, якая тварыла сабою/і сягоньня яшчэ творыць/фінансавы стрыжань Фонду, – ня прыйшла зь ніякае царквы, ані Праваслаўнае, ані Каталіцкае, ані якое-небудзь Пратэстанцкае, што ня даў нам грошай ніякі добры конґрэсман гэтаксама як і ніякі выдатны кандыдат на прэзыдэнта; грошай мы не атрымалі ад ніякае палітычнае партыі ці арганізацыі або ад якога-небудзь існуючага на сьвеце ўраду. Грошы, якія ляглі ў васнову гэтага Фонду, былі ўласнасьцю толькі і выключна Яна і Аліцыі Пятроўскіх, запрацаваныя іхнымі ўласнымі рукамі ў найболей чэснай і карыснай для грамады працы, пры наяўнасьці памяркоўнасьці і ашчаднасьці ў жыцьці з адсутнасьцю якога-не - будзь праяву снабізму і, што на грашох гэтых няма ніякае задоўжанасьці, няма ніякае плямы, няма ніякага цярпеньня людзкага ці людзкае крыві... Мы, як і кажны іншы беларус, ведалі што значыць сядзець за рулём прыгожага кадыляку ці за рулём цеснага маленькага самаходу.

Мы назвалі наш Беларускі Фонд пачаткава гэтак, як мы назвалі яго, бо жывілі перакананьне, што за

нашыя чыны мы ня маем патрэбы саромецца каго-небудзь, што мы людзі роўныя сярод роўных, і маем аднолькавае права жыць на гэтай зямлі, тварыць з пачуцьцём адказнасьці як і карыстацца належнымі нам, як людзям, прывілегіямі.

Ян Пятроўскі

**The President's Comments**

Every activity which involves the administration of money requires of the administrators certain explanatory words to the community within which this activity takes place.

Some years ago, when a conversation turned to the Byelorussian Fund, one of our good friends asked me half jokingly: "What are you trying to do, Mr. Piotrowski, glorify yourself?"

I must admit that, having heard this question which had never occurred to me, I felt surprised.

In 1973, when the Fund published its first book, the third in a series of Plato's Dialogues in Byelorussian translation, it was stated that the book was published by the John and Alice Piotrowski Byelorussian Charitable Educational Fund. The adjectival phrase "John and Alice Piotrowski" was not inserted accidentally, or with the intention of glorifying anyone. This phrase was introduced with due care and a purpose thought out in advance. We wanted to state clearly and emphatically that the initial sum of money, which formed the financial basis of the Fund, did not come from any church, be it Protestant, Orthodox or Catholic, that this money was not given to us by a good congressman nor any prominent candidate for the highest office of this country. We did not receive monies from any political party or organization, or anyone representing a governmental body. This money, the basis of this Fund, belonged only and exclusively to John and Alice Piotrowski and was earned with their own hands engaged in honest and productive activity, with a thoughtful and frugal attitude. There are no liens on this money, no blemishes, or human suffering. We, like all other Byelorussians, knew what it means to sit behind the wheel of a fancy Cadillac, and behind the wheel of a modest economical automobile.

We named the Fund at the outset as we did, because we became convinced that we need not be ashamed for our deeds, that we are equal among equals, and have as much right to live on this earth as anyone and to act responsibly and enjoy our rightful privileges.

John Piotrowski

Donations to the Byelorussian Fund are tax deductible

# БЕЛАРУСКІ ХАРЫТАТЫЎНА-АДУКАЦЫЙНЫ ФОНД

## С Т А Т У Т

### Артыкул I

НАЗОЎ

I. Праўны назоў гэтае карпарацыі, як зазначана ў Артыкулах Інкарпарацыі, зарэгістраваных у Штаце Флярыда, гучыць: Яна і Аліцыі Пятроўскіх Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд.

2. Гэтая арганізацыя мае быць гэтаксама ведамаю ў вэрсыі скарочанага свайго назову, як: Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд або як: Беларускі Фонд.

### Артыкул II

АДДЗЕЛЫ

I. Галоўны аддзел знаходзіцца пад адрысам:

**1716 NE 7th Terrace**
**Gainesville, Florida 32601**

2. Арганізацыя можа гэтаксама мець свае аддзелы на іншых мясцох, якія Рада Дырэктараў можа час ад часу вызначыць, калі справы фонду будуць гэтага вымагаць.

### Артыкул III

МЭТЫ І ДЗЕЙНАСЬЦЬ

I. Мэты і дзейнасьць гэтага фонду, як выражана ў Артыкулах Інкарпарацыі, маюць быць: Успамагаць сярод людзей Братэрства, Свабоду і Роўнасьць, успамагаць адукацыю сярод беларусаў на Бацькаўшчыне, расьцярушаных па сьвеце па-за межамі яе і сярод амэрыканцаў беларускага паходжаньня, паглыбляць сярод усіх людзей сьведамасьць сваіх правоў як і свае адказнасьці, будзіць сярод людзей сьведамасьць маральных прынцыпаў і практыкаваньне іх у штадзенным жыцьці.

2. Беларускі Фонд зьяўляецца ў сваей натуры адукацыйным, не-царкоўным і апалітычным фондам.

3. Мэты Беларускага Фонду асягваюцца шляхам: публікацыі працаў антычнае заходня-эўрапэйскае клясычнае спадчыны і іншых падобных гістарычных твораў, публікацыі працаў мадэрнае літаратуры, дарогаю

супрацы з пісьменьнікамі і людзьмі навукі; выкарыстаньня сродкаў зносінаў, як: кнігаў, часопісаў, штодзеннае прэсы, радыя, тэлевізыі.

4. Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд ня мае на мэце грашовых заработкаў. Ніякая частка зь ягонага чыстага прыходу ня можа ісьці на карысьць ніякага сябры, дырэктара або якое-небудзь іншае асобы. У выпадку распушчэньня фонду, кажны балянс, які астанецца пасьля сплаты поўнасьцю ўсіх задоўжаньняў і забавязаньняў, мае быць распадзелены выключна для харытатыўных, навуковых або адукацыйных мэтаў.

5. Нічога ў гэтым статуце на можа быць інтэрпрэтаваным з мэтаю нарушэньня актаў або паступаваньняў, прадпрынятых раней гэтаю арганізацыяю або ад яе імя.

## Артыкул IV

ПУБЛІКАЦЫІ

I. Беларускі Фонд прадбачыць выдаваньне гадавога бюлятэню з мэтаю інфармацыі сяброў і грамадзкае апініі адносна свае дзейнасьці і плянаваньняў Фонду.

2. Рада Дырэктараў выбірае рэдактара, які будзе адказным за выкананьне сваіх абавязкаў.

## Артыкул V

СЯБРОЎСТВА

I. Сяброўства ў карпарацыі абасноўваецца на шчырым жаданьні зацікаўленага ўспамагаць вызначаныя арганізацыю мэты і кажнаю данацыяю на рэч Фонду.

2. Сяброўства ў карпарацыі не дае права голасу ніякаму сябру. Кажны, аднак, сябра можа стацца сябрам Дарадчага Цела, як гаворыць аб гэтым Артыкул УІІІ гэтага статуту, калі Статут як гэткі зацьверджаны галасамі Рады Дырэктараў.

3. Рада Дырэктараў засьцерагае сабе права адмовіць сяброўства або выключыць з сяброўства, кажную асобу або групу людзей, што да якіх Рада Дырэктараў мае засьцярогі, што яны не знаходзяцца ў суздоднасьці з Мэтамі Беларускага Фонду, або сяброўства якіх ня будзе адказваць лепшым інтарэсам гэтага Фонду.

## Артыкул VI

РАДА ДЫРЭКТАРАЎ

I. Першапачаткавая Рада Дырэктараў засноўваецца паводля ўстаноўленага парадку, зазначанага ў Артыкулах Інкарпарацыі.

2. Рада Дырэктараў выбірае дадатковых людзей у склад дзеючае Рады. Рада складацца можа зь мінімум трох асобаў і максімум – адзінаццаці. Выбраныя асобы ў Раду Дырэктараў выбіраюцца на пяцігадовы тэрмін з абавязкам удзельнічаць у паседжаньнях што найменей раз на тры гады.

3. Рада Дырэктараў зьбіраецца што найменей раз на год, у часе і месцы, вызначаным Прэзыдэнтам Карпарыцыі. Паседжаньне і ягоная аґэнда павінны быць пададзены да ведама сябром найпазьней адзін месяц наперад.

4. Кворум Рады Дырэктараў мае быць I/2 дадзенага складу Рады Дырэктараў, або тры асобы, калі яны твораць большы лік.

5. Рада Дырэктараў палагоджвае справы карпарацыі большасьцю прысутных дарогаю галасаваньня.

6. Калі справа мае быць палагоджана ў іншым часе, чымся паседжаньне Рады Дырэктараў, сакратар мае правесьці галасаваньне паштоваю дарогаю пад кіраўніцтвам Прэзыдэнта.

7. У справах плянаваных на даўжэйшы час, большага выдаткаваньня Фонду, Рада Дырэктараў павінна зьвярнуцца да Дарадчага Цела з мэтаю атрыманьня апініі паасобных яе сяброў, перад прадпрыняцьцем акцыі, але ня можа ўважацца за абмежаваную ў правядзеньні дадзенае справы або справаў.

## Артыкул VII

УРАДОЎЦЫ

I. Урадоўцы карпарацыі павінны быць выбiранымі Радаю Дырэктараў большасьцю галасоў. За вынняткам выпадку, абазначанага ў сэкцыі 5-ай, урадоўцы павінны быць выбіранымі на двухгодні тэрмін. Урадоўцы гэтыя маюць тварыць сабою Выканаўчы Камітэт, функцыя якога ёсьць дагляд над дзейнасьцю карпарацыі.

2. Прэзыдэнт выконвае нармальныя абавязкі свайго ўраду. Ён мае старшынстваваць на паседжаньнях Рады Дырэктараў. Ён зьяўляецца праўным прадстаўніком карпарацыі ўва ўсіх яе справах.

3. Абавязкам сакратара ёсьць весьці запісы зь дзейнасьці карпарацыі, і пратаколы з паседжаньняў Рады Дырэктараў.

4. Абавязкам скарбніка ёсьць трыманьне ў належнай спраўнасьці ўсіх касавых кнігаў карпарацыі, у сузгоднасьці з прадбачанаю працэдураю ў Артыкуле IX. Да абавязкаў скарбніка належыць гэтаксама спарадкаваньне гадавое фінансавае справаздачы ў часе месяца студзеня ў сузгоднасьці з вымаганьнем адносных урадавых чыньнікаў.

5. Ян Пятроўскі, як адзін з закладчыкаў карпарацыі, мае займаць становішча Прэзыдэнта на працягу свайго жыцьця. У выпадку, калі-б ён з фізычных ці мэнтальных прычынаў ня быў у стане выконваць сваіх абавязкаў, Віцэ-прэзыдэнт будзе старшынстваваць і выконваць абавязкі ня ягоным месцы.

## Артыкул VIII

ДАРАДЧАЕ ЦЕЛА

I. Павінна быць паклікана да жыцьця Дарадчае Цела, як дапаможны орган для Рады Дырэктараў дзеля абмяркоўваньня тых ці іншых справаў.

2. Кажны сябра Дарадчага Цела мянуецца Прэзыдэнтам у сузгоднасьці з менаваным, і мае быць зацьверджаны Радаю Дырэктараў.

Прэзыдэнт з прычыны свайго становішча зьяўляецца сябрам Дарадчага Цела.

4. Паседжаньні Дарадчага Цела скліквающца Прэзыдэнтам у выпадках ім прадбачаных.

## Артыкул IX

ФІНАНСЫ І АДМІНІСТРАЦЫЯ

I. Аснаўны фонд быў заложаны на дарозе данацыяў Яна і Аліцыі Пятроўскіх. Гэты аснаўны фонд, які-далейшыя да яго данацыі, мае быць зложаны ў узнанай правам фінансавай інстытуцыі і павінен прыносіць максымальны працэнт магчымы ў дадзеным часе. Аснаўны фонд ня можа быць зужыты ў цэласьці або часткава, за вынятакм сваеасаблівых абставінаў і пры аднагалоснай згодзе Рады Дырэктараў.

2. Адумыснае разрахунковае конта ў банку служыць для бягучых фінансавых апэрацыяў. Гэтае адумыснае разрахунковае конта ўжываецца для атрыманых працэнтаў з аснаўнога фонду, данацыяў і іншых эвэнтуальных жаролаў,якія могуць пабольшыць фонд. Усе нязужытыя данацыі, кажны нявыкарыстаны прыход і 50% з

працэнтаў аснаўнога фонду, павінны быць дададзены да аснаўнога фонду што найменей раз на год, або і часьцей у залежнасьці ад пастановы Рады Дырэктараў. Усе выдаткі маюць быць праводжанымі адымсным банкавым контам /чэкінґ аккаўнт/. Гэткім спосабам даецца месца надзеі, што аснаўны фонд будзе павялічвацца, а зь ім павялічвацца рост і дзейнасьць карпарацыі паводля жаданьняў беларускае супольнасьці.

3. Выкакаўчы камітэт што год мае ўкласьці гадавы бюджэт для надыходзячага каляндарнага году.

4. Усе выплачваныя сумы маюць праходзіць праз адумыснае банкавае конта чэкамі, падпісанымі Прэзыдэнтам і Скарбнікам.

5. Каждаразовы выдатак, перавышаючы суму 500.00 даляраў, мае быць зацьверджаны загадзя выканаўчым камітэтам.

6. Фінансавыя кнігі карпарацыі маюць быць стала даступнымі для інспэкцыі сябром фонду.

## Артыкул X

ПАПРАЎКІ І ПАЛЕПШАНЬНІ

I. Кажная акцыя, прадпрынятая з мэтаю папраўкі або дапаўненьня гэтага Статуту, мусіць быць папярэджана паведамленьнем на пісьме кажнага сябру Рады Дырэктараў адзін месяц наперад.

2. Кажная папраўка або дапаўненьне ў гэтым Статуце вымагае 3/4 аффірматыўных галасоў усіх прысутных сяброў Рады Дырэктараў. Успомнутыя папраўкі могуць быць праводжанымі на паседжаньнях Рады Дырэктараў або завочным галасаваньнем праз пошту.

## Артыкул XI

ПЯЧАТКА

I. Карпарацыя можа мець афіцыяльную пячатку з адпаведным зьместам. – Гэтакая пячатка можа быць ужыванаю да гэтакіх карпарацыйных дакумантаў, адносна якіх можа існаваць права або ўрадавыя пастановы, або, калі гэта можа быць неабходным і адпаведным са стараны чыньнікаў карпарацыі. Аднак, ніякі дакумант карпарацыі, праўна выкананы, ня можа быць уважаным як праўна ня маючым моцы або недастаткова выкананым з прычыны адсутнасьці пячаці.

===

/Увага: У выпадку спрэчным, мерадайным тэкстам зьяўляецца тэкст у ангельскай мове/.

=================

# ARTICLES OF INCORPORATION

## THE JOHN AND ALICE PIOTROWSKI
## BYELORUSSIAN CHARITABLE EDUCATIONAL FUND, INC.
(A Corporation Not For Profit)

We, the undersigned persons of lawful age, at least the majority of whom are residents of the State of Florida, do hereby associate ourselves together for the purpose of forming a non-profit corporation under the Statutes of the State of Florida.

### ARTICLE I - NAME

The name of the corporation is the John and Alice Piotrowski Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.

### ARTICLE II - PRINCIPAL OFFICE

The post office address of the corporation's principal office is 1716 Northeast Seventh Terrace, Gainesville, Florida 32601.

### ARTICLE III - DURATION

This corporation shall exist perpetually.

### ARTICLE IV - PURPOSES

The business and purpose of this corporation shall be:

1. To promote brotherhood, liberty, and equality among all people.
2. To promote education among Byelorussians, both at home and in exile, and Byelorussian-Americans.
3. To deepen among all people the consciousness of their rights and responsibilities.
4. To awaken among all people the consciousness of moral principles in everyday life.
5. The fund shall be educational, non-sectarian, and non-political.

The purposes of the corporation shall be achieved by:

1. Publication of works of ancient western classical heritage.
2. Publication of other historical works.
3. Publication of works of modern literature.
4. Cooperation with writers and men of letters.
5. Utilization of all communications media, such as books, periodicals, newspapers, radio and television.

### ARTICLE V - NON-STOCK CORPORATION

The corporation shall be non-stock, and no dividends or pecuniary profits shall be declared or paid to the members thereof.

### ARTICLE VI - DIRECTORS

The number of directors constituting the initial Board of Directors of the corporation is four (4), and the names and addresses of the persons who are to serve as initial directors are as follows:

John Piotrowski
Mrs. Alice Piotrowski
Michael Jacewicz
George Piotrowski

### ARTICLE VII - INCORPORATORS

The names of the incorporators are:

John Piotrowski
Mrs. Alice Piotrowski
Michael Jacewicz
George Piotrowski

### ARTICLE VIII - MEMBERSHIP REQUIREMENT

Membership in this corporation shall be predicated upon the applicant's genuine desire to further the stated purposes of this corporation.

### ARTICLE IX - AMENDMENTS

These articles may be amended in the manner provided by Statute at the time of the amendment.

### ARTICLE X - ELECTION OF OFFICERS

The officers shall be elected by the directors, who shall first be elected by the members of the corporation. Said officers shall manage the affairs of the corporation.

### ARTICLE XI
### DISTRIBUTION OF ASSETS UPON DISSOLUTION

This corporation is not organized for a pecuniary profit. It shall not have any power to issue certificates of stock or declare dividends, and no part of its net earnings shall inure to the benefit of any member, director or individual. The balance, if any, of all money received by the corporation from its operations, after the payment in full of all debts and obligations of the corporation of whatever kind or nature, shall be used and distributed exclusively for charitable, scientific and/or educational purposes.

IN WITNESS WHEREOF, the undersigned subscribers have executed these articles of incorporation this 18th day of October, 1976.

John Piotrowski
Mrs. Alice Piotrowski
Michael Jacewicz
George Piotrowski

# By-Laws

### ARTICLE I
#### Name

1. The legal name of this corporation, as described in the Articles of Incorporation filed with the State of Florida, is "The John and Alice Piotrowski Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc."
2. This organization may also be known by the shortened versions of its name as the "Byelorussian Charitable Educational Fund" or as the "Byelorussian Fund."

### ARTICLE II
#### Offices

1. The princiapl office shall be at 1716 Northeast 7th Terrace, Gainesville, Florida 32601.
2. The Corporation may also have offices at other places as the Board of Directors may from time to time select, or as the business of the Coporation may require.

## ARTICLE III

### Purposes and Functions

1. The business and purpose of this Corporation, as stated in the Articles of Incorporation, shall be to promote brotherhood, liberty, and equality among all people, to promote education among Byelorussians, both at home and in exile, and Byelorussian-Americans, to deepen among all people the consciousness of their rights and responsibilities, and to awaken among all people the consciousness of moral principles in everyday life.

2. The fund shall be educational, non-sectarian, and non-political.

3. The purposes of the Corporation shall be achieved by publication of works of ancient western classical heritage and other historical works, publication of works of modern literature, cooperation with writers and men of letters, and utilization of all communications media, such as books, periodicals, newspapers, radio, and television.

4. This organization is not organized for pecuniary profit. No part of its net earnings shall inure to the benefit of any member, director, or other individual. In the event of dissolution of this Corporation, any balance remaining after payment in full of any debts and obligations shall be used and distributed exclusively for charitable scientific and/or educational purposes.

5. Nothing in these by-laws shall be deemed to impair any acts or proceedings heretofore undertaken by or on behalf of this Corporation.

## ARTICLE IV

### Publications

1. The Corporation shall publish annually a Bulletin, to inform the members and the public of the activities and plans of the Corporation.

2. The Editor of this Bulletin shall be designated by the Board of Directors, and that individual shall be responsible for the preparation and publication of that document.

## ARTICLE V

### Membership

1. Membership in the Corporation shall be predicated upon the applicant's genuine desire to further the stated purpose of this Corporation and by a contribution of any amount to the Corporation.

2. Membership in this Corporation shall not give any voting power to any such member. Any member may however become a member of the Advisory Council, as set up in Article VIII, if such status is approved by a majority vote of the Board of Directors.

3. The Board of Directors shall reserve the right to deny membership, or expel from membership, any individual or group whom the Board of Directors deems not to be in harmony with the aims and purposes of the Corporation, or whose membership would not be in the best interests of the Corporation.

## ARTICLE VI

### Board of Directors

1. The initial Board of Directors shall be constituted as described in the Articles of Incorporation.

2. The Board of Directors shall elect additional individuals to serve on the Board. The Board shall be comprised of a minimum of three individuals, and a maximum of eleven. Individuals elected to the Board of Directors shall serve for five year terms, and shall be required to attend at least one meeting every three years.

3. The Board of Directors shall meet at least once a year, at a time and place designated by the President of the Corporation. The meeting and its agenda shall be announced to the membership one month in advance.

4. A quorum of the Board of Directors shall be ½ of the current members of the Board of Directors, or three individuals, whichever is greater.
5. The Board of Directors shall act on the business of the Corporation by a majority of those present and voting.
6. If business is to be conducted at times other than at meetings of the Board of Directors, mail ballots may be distributed by the Secretary at the direction of the President. Action on such business shall be by a majority of those voting either in person or by mail.
7. In matters dealing with long-range planning, or major expenditures of funds, the Board of Directors shall solicit comments from the Advisory Council prior to any action, but shall not be bound by such comments.

## ARTICLE VII
### Officers

Officers of the Corporation shall be selected from and by the Board of Directors, by majority vote. Except as noted in Section 5, officers shall be elected for a term of two years. These officers shall comprise the Executive Committee, whose function is to oversee the operation of the Corporation.
2. The President shall perform the usual duties of that office. He shall preside at meetings of the Board of Directors. He shall be the Corporation's legal representative in all matters.
3. The Secretary shall keep records of the activities of the Corporation, including the minutes of the meetings of the Board of Directors.
4. The Treasurer shall maintain the financial records of the Corporation, in conformance with the procedures of Article IX. The Treasurer shall issue a yearly financial statement during the month of January, and prepare whatever financial reports are required by appropriate governmental bodies.
5. John Piotrowski, as co-founder of the Corporation, shall hold the office of President for as long as he lives. If he is ever physically or mentally unable to perform his duties, the Vice-President will preside and perform in his place.

## ARTICLE VIII
### Advisory Council

1. An Advisory Council shall be established to aid and assist the Board of Directors in their deliberations.
2. Members of the Advisory Council shall be nominated by the President, with the consent of the nominee, and shall be approved by the Board of Directors.
3. The President shall be an *ex officio* member of the Advisory Council.
4. Meetings of the Advisory Council shall be convened by the President whenever he deems appropriate.

## ARTICLE IX
### Finances and Administration

1.The basic Fund was established through a donation by John and Alice Piotrowski. This basic Fund, and any additions thereto, shall be maintained in a recognized financial institution, and shall earn the maximum rate of interest available currently. The basic Fund shall not be expended in whole or in part, except under unusual conditions and by unanimous agreement of the entire Board of Directors.
2. A special account shall be maintained for current financial transactions. This special account shall be used to receive the interest earned from the basic Fund, donations to the Fund, and any other income that may accrue to the Corporation. All unused donations to the Fund, any unused income, and 50% of the interest earned by the Fund, shall be added to the Fund at least annually, or more often as deemed necessary by the Board. All expenditures are to be made from the special

account. In this way it is expected that the basic fund will increase until such time as expansion of the Corporation is desired.

3. The Executive Committee shall annually prepare a budget for the coming calendar year.

4. All disbursements from the special account are to be made by checks signed by both the President and the Treasurer.

5. Any expenditures greater than $500 shall be approved in advance by the Executive Committee.

6. The financial records of the Corporation shall at all times be open for inspection by the members.

7. An independent audit of the Corporation shall be conducted at least once every two years.

## ARTICLE X

### Amendments

1. Any action to amend these by-laws must be preceded by written notification to every member of the Board of Directors one month prior to such action.

2. Any amendment to these by-laws shall require affirmative votes of ¾ of all current members of the Board of Directors. Amendments may be acted upon at meetings of the Board of Directors or by mail ballot.

## ARTICLE XI

### Seal

The Corporation shall have an official seal.

Such seal shall be affixed to such corporate instruments as may by law or governmental regulation be required, or as deemed necessary or appropriate by the officers of the corporation; but no deed or instrument of the Corporation; otherwise duly authorized, shall be held invalid or insufficiently executed for want of such seal.

---

### ЖЫВАЯ ГУТАРКА

Зусім ня дзіва, што Аляксандар Вялікі вазіў з сабою ў паходах Іліяду ў дарагацэннай шкатуле. Пісанае слова – найдаражэйшая з усіх сьвятынь. З усяе творчасьці мастацтва, яно і самае блізкае нам і самае агульналюдзкае. Яно найбліжэйшае за ўсё ў жыцьці. Яго можна перакласьці на любую мову і ня толькі прачытаць, але і пачуць з вуснаў чалавека, ня проста выразіць на палотнішчы або ў мрамары, але і вырабіць скульптурна з жывога подыху самога жыцьця. Знакі, што ўтрывалілі думку чалавека старажытнасьці, адтвараюцца сучасным чалавекам жывою гутаркаю. Тысячагодзьдзі ўпрыгожылі помнікі грэцкае літаратуры, гэтак як і яе мрамарныя статуі, у сьпелыя залатыя водцені восені, і ўсюды яны нясуць з сабою супакой, які бароніць іх ад разьядаючае іржы стагодзьдзяў.

Торо

ПЕРШАПАЧАТАК

## З ГІСТОРЫІ ФОНДУ

Думка пакліканьня да жыцьця падобнага фонду ўзьнікла першы раз у 1964 г., і гэта ў сувязку з выхадам у сьвет Ул. Глыбіннага "На берагох пад сонцам". У "Сьветачы Хрыстовае Навукі" /№78-79, бб. 14,15/ у сувязку з гэтым выдарэньнем, сярод іншага, Ян Пятроўскі гавараў: "Разам з кнігаю "На берагах пад сонцам"... рассылаецца ліст, скіраваны да чытача. Ліст гэты закранае справы натуры фінансавае. Аўтар ліста наракае, і слушна, што, з прычыны недахопу сродкаў матэрыяльных, многа прац пісьменьнікаў прападае, не дайшоўшы да прэсу, а тыя, якія друкуюцца, стаюцца вялікім абцяжэньнем фінансавым для выдаўцоў.

Для тых з нас, хто мае адчыненыя вочы і вушы, і назірае жыцьцё нашых людзей, можа выдасца гэта дзіўным зьявішчам, якое не павінна мець месца сярод нас. Усе нашыя суродзічы ў гэтай дзіўнай краіне неабмежаваных магчымасьцяў духовага як і эканамічнага прагрэсу ўжо даўно абжыліся. Бальшыня мае добра платную працу і ашчаднасьці. Хто толькі хоча, можа мець самаход, уласны дом... Некаторыя з нас маюць уласныя прадпрыемствы... Надыйшла ўжо пара арганізацыі сваіх сталых фондаў... Маем тут на ўвазе фонды ў поўным значэньні гэтага слова. Гэта мусяць быць сумы грошай, зложаныя ў банках ці сваіх аналягічных інстытуцыях, у акцыях, адны працэнты зь якіх дазволілі-б на належнае фінансаваньне пляну працы. - Трэба гэтага хацець і да гэтага імкнуцца..."

Гэтулькі было сказана тады. У міжчасе ўсюды, дзе гэта магчымым было, дыскутавалася думка падобнага фонду і часта знаходзіла водгульле зразуменьня.

Гэтак паўстаў Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд.

Пасьля адносна доўгіх стараньняў са стараны закладчыкаў і неабходных коштаў, зьвязаных зь дзейнасьцю праўнікаў і хвармальнасьцяў, дня 9-га сьнежня 1976 году ў Штатным Дэпартамэнце Флярыды ў адумысным для падобных справаў Аддзеле была прызнана гэтаму Фонду Прывілейная Грамата з назовам у ангельскай мове: The John and Alice Piotrowski Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.

Сягоньня Беларускі Фонд уваходзіць у новую фазу свайго існаваньня, болей інтэнсыўнага, мы хочам верыць, і з большымі магчымасьцямі супольнае працы. У выніку гэтага мы зьвяртаемся да ўсіх нашых суродзічаў на ўсіх кантынэнтах пісаць да нас. Падайце,

калі ласка, вашыя ўражаньні, вашую крытыку, вашыя рады, праекты і пляны, каб атрымаць найлепшыя разультаты: пашырэньне нашых гарызонтаў, узмацненьне нашых асноваў эканамічных. Зьвяртаемся гэтаксама да ўсіх зычлівых людзей падаць нам новыя адрысы вашых родзічаў, знаёмых і суседзяў, каб выдрукаваныя нашыя працы не ляжалі бясчынна, але ішлі ў народ.

Затым, чакаем на вышыя водклікі, за якія загадзя вам дзякуем.

=====

Высылайце заказы на імя Беларускага Фонду на наступныя кніжкі:

1. Кніга першая - дыялёгі Плятона: Абарона Сакратаса, Крытон, Файдон ................. данацыя $ 50.00
2. Кніга другая - Сымпозыён, Іён з дадаткам Грэцка-Беларускага слоўніка... 10.00
3. Кніга трэйцяя - Ґорґіяс з дадаткам Грэцка-Беларускага слоўніка ............ 5.00
4. Кніга чацьвертая - Протаґорас, Гіппіяс вялікшы з дадаткам нарысу др Г. Маррэйя .. 5.00
5. Кніга пятая - Пармэнідэс, Мэнон ......... 5.00
6. Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека. - Гістарычны дакумант, усьведамляе чалавека адносна ягоных правоў. Прачытаць і праступдыяваць зьмест яе ёсьць важным абавязкам кажнага беларуса. Будзь сьведамым!....... 1.50
7. Лепшыя Думкі Чалавека - выдатны зборнік лепшых думак чалавека, выражаных ім на працягу ягонае гісторыі. Лепшыя думкі ўзбагачваюць духова сучаснага чалавека... 7.00
8. АНАҐРАМЫ - афіцыяльная публікацыя Беларускага Харытатыўна-Адукацыйнага Фонду; інфармуе пра сутнасьць Фонду, ягоныя мэты як і сродкі ....................... 1.50

===========

Рычард дэ Бюрі /1287-1345/ - ангельскі прасьветнік і бібліёфіл, аўтар трактату Любоў да кнігаў, кажа: Кнігі - вучыцялі, якія вучаць нас бяз розгаў і палкі, бяз словаў і гневу, бяз грошай і бяз хвормы; у кажным часе, калі падыйдзеш да іх, яны ня сьпяць... ня бурчаць, калі ты памыліўся, і не сьмяюцца, калі ты чаго-небудзь ня ведаеш.

Ведама, любоў да кнігаў - любоў да мудрасьці.

Сутнасьць узгадаваньня ня ў тым, каб прыдбаць кнігу, але каб карыстацца ёю.

Плютарх